# ТЭАТР І ЯГО КРЫТЫКА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

п'есы А. Макаёнка, як і для ўсіх лепшых твораў сучаснай драматургіі, характэрна мнагапланавасць, яна мае пэўны падтэкст.

Калі б сапраўды змест п'есы «Лявоніха на арбіце» вычэрпваўся такой нескладанай сюжэтнай пабудовай — перадавая жонка перамагае адсталага мужа, — наўрад ці карысталася б яна хоць якім-небудзь поспехам. У падобнай трактоўцы сюжэта задума пісьменніка выглядае даволі несур'ёзнай, бо ўзнікае пытанне аб залішнім упрыгожванні калгаснай рэчаіснасці. Відавочна, што практычна ставіць праблему адмаўлення калгаснікаў ад уласных кароў, ад прысядзібных участкаў як самую надзённую праблему рана. Аб гэтым гаварыў М. С. Хрушчоў. Тым не менш п'еса А. Макаёнка прынята да пастаноўкі ў многіх тэатрах Савецкага Саюза. Дык адкуль жа такое нечаканае і масавае захапленне пасля XXII з'езда як быццам бы нежыццёвым канфліктам?

Адгадка прыходзіць, калі глядзіш спектакль Тэатра імя Я. Купалы. Яго творчы калектыў па-свойму прачытаў п'есу беларускага драматурга, пастараўся глыбока раскрыць яе сапраўдны змест. Уражае Б. Платонаў у ролі Лявона Чмыха. Не, гэта не зусім той закаранелы індывідуаліст, якім уяўляюць сабе Лявона некаторыя рэцэнзенты, і, вядома, не «буржуйчык», не «маленькі імперыяліст», бо якраз так называе ў п'есе старшыня калгаса Буйкевіч людзей, падобных Лявону. Але як бы мы ні смяяліся з Лявона, усё-такі дзесьці ў глыбіні душы мы спачуваем Лявону Б. Платонава. Хай сабе ў яго многа скажоных уяўленняў аб жыцці, але ён — працаўнік, і гэтым сказана сёння вельмі многа. Лявон стрыманы ў словах, бо вечна заняты працай. Але і адарваны ад працы, ён не змяняецца ў паводзінах, бо рукі ў яго працавітыя і сам ён стомлены. Гэта відаць з усёй яго постаці. У выніку таго, што ў вобліку Лявона падкрэсліваецца перш за ўсё працавітасць, у спектаклі ўзнікаюць новыя ідэйныя акцэнты. Паступова спачуванне да Лявона большае. Нарэшце ўзнікае думка: няўжо гэты чалавек, з такім практычным поглядам на жыццё, разумны, даволі развіты і начытаны, не ўбачыў бы выгады там, дзе яна ёсць? Няўжо яго яшчэ трэба агітаваць? У пошуках адказу на гэтыя пытанні больш пільна прыглядаемся да яго праціўнікаў. І тут аказваецца, што яны вельмі лёгка і многа абвінавачваюць Лявона ў перажытках, пагражаюць яму і менш за ўсё звяртаюцца да яго з дзелавымі, практычнымі прапановамі. Сам сабой вынікае вывад, што Лявон не столькі ўпарты, колькі сур'ёзны, разважлівы чалавек.

Ці ёсць у п'есе дастатковая аснова, каб гэтак трактаваць вобраз Лявона? Так, ёсць. У многіх сваіх звычках і поглядах Лявон, вядома, смешны, варты камедыйнага асуджэння. Жонка Лушка смяецца з яго: «Каб здаць у магазін вышчарбленую бутэльку, дык ты гатоў паўдня сядзець ды сургучом замазваць шчарбіну...» Але галоўная рыса яго характару — працавітасць. Не, ён не злодзей, хоць і пайшоў красці калгаснае сена. Ён вельмі перажывае не з-за таго, што яго пакараюць. Яму важней другое: «На вуліцу — будзе — не пакажыся, засмяюць. А я не хачу, каб з мяне смяяліся. Ясна? Не хачу!» Ён баіцца сораму, а не пакарання. А гэта філасофія не злодзея. Пайсці супраць людзей, супраць усеагульнай маралі Лявону страшна.

Усіх людзей Лявон цэніць па адносінах да працы. Яму не падабаюцца погляды на жыццё суседкі Клавы, якая кажа: «Папрацую ў меру, пагуляю ўдоваль». Ён справядліва бачыць у гэтых словах лёгкадумнасць. Нават жонка мілая яму перш за ўсё як работніца. Параўноўваючы Лушку з Клавай, ён заключае: «З той жа хоць на людзі можна было паказацца: работніца, галава варыць, не верціхвостка». Максіму, які кліча яго на сход, ён адказвае: «Упраўлюся — прыйду. Не гарыць жа там». Ды і сам старшыня Буйкевіч, адзін з яго праціўнікаў, так характарызуе Лявона: «Мужык ты гаспадарлівы, кемлівы... Рукі ў цябе таксама з мазалямі. Толькі мазалі тыя нажыў... на сваім гародзе, у сваім садку. Не на калгасным полі. Я разумею, ты тут не вінаваты. Жонка на ферме занята, дачка таксама. Ім няма калі займацца сваім гародам. Вось на цябе. і ўзваліласся твая сядзіба». Лявон згаджаецца. «Верна»,—кажа ён, але здаваць карову і сядзібу ў калгас не хоча. Чаму?

І вось тут, трэба прызнаць, аўтару п'есы не хапіла пачуцця аб'ектыўнасці, не хапіла дастатковага ведання жыцця, каб зрабіць больш зразумелымі прычыны канфлікту Лявона з Лушкай і з усімі тымі, хто падтрымлівае яе. У гэтым моманце п'еса А. Макаёнка найбольш непераканальная. Пра сваю карову Лявон гаворыць: «Ты ж у мяне — як чаканка звонкай манеты». Такое відавочна выкрывальнае самапрызнанне «навязана» аўтарам Лявону. Ён думае пра сябе як пра добрага чалавека, таму не мог без «волі» аўтара самавыкрывацца. Акрамя таго, хочацца запярэчыць, што не такі ўжо вялікі даход ад адной каровы, асабліва, калі ёй не хапае сена. На добрай працы можна зарабіць у дзесяць разоў больш. Гэта павінен быў бы разумець Лявон. А Лушка з Максімам бачаць усе беды Лявона ў перажытках мінулага, г. зн. у перажытках капіталізму, уласцівых яму. Лушка нават ставіць знак роўнасці паміж сваім мужам і буржуямі, «якія і вадародную бомбу могуць кінуць, каб захаваць сваё...» Вядома, у камедыі магчымы самыя вялікія перавелічэнні. Аднак словы Лушкі ўсё-такі ўмацоўваюць падазронасць, што Лявон — не наш, не савецкі чалавек. А гэта — няпраўда. Хоць у яго ёсць памылкі, ніхто не мае права выстаўляць яго за межы савецкага грамадства. За чалавека трэба змагацца. Акрамя таго, Лявон не супраць лепшага ў жыцці, толькі яму здаецца, што Буйкевіч спяшаецца.

Такім чынам, адкрытая матывіроўка некаторых паводзін Лявона, якая даецца ў п'есе, не адпавядае характару вобраза, нават супярэчыць яму. У гэтым відаць супярэчлівасць і непаслядоўнасць аўтарскай пазіцыі ў адносінах да вобраза Лявона.

Але ў іншых выпадках аўтар разумее свайго героя. Таму ёсць магчымасць апасродкаваным шляхам знайсці прычыны, чаму Лявон не хоча слухацца Буйкевіча і Лушкі. Паспрабуем на нейкі час стаць на яго месца і з гэтага пункту погляду ўчытаемся ў тэкст п'есы. Аказваецца, у калгасе і не было яшчэ такой практыкі, каб калгаснікам адпускалі малако, яйкі, гуркі і г. д. Буйкевіч яшчэ толькі абяцае зрабіць так: «Будзе! І нават дзешавей, чым са свайго гарода, ад сваёй кароўкі...» Праўда, Буйкевіч абяцае катэгарычна, але нават самыя катэгарычныя абяцанні не з'яўляюцца яшчэ самой справай. А як яно абернецца ў сапраўднасці— для Лявона невядома. Са слоў Міхала відаць, што агульныя добраўпарадкаваныя дамы «толькі пачалі будаваць», і Лявон не быў бы практычным чалавекам, каб не ведаў, што пройдзе многа гадоў, пакуль набудуюць для ўсіх. Праўда, суседка Клава адвяла карову на ферму, але адвяла, як яна кажа, каб пагуляць быў час. Лявону такая выгода не патрэбна. Адсюль яго ўпартасць. Ён, відаць, навучаны горкім вопытам, не адзін раз адчуваў на сабе шкоду паспешлівых рашэнняў па сельскай гаспадарцы. Нездарма ён добра ведае сэнс выразаў «галавакружэнне ад поспехаў» і «лявацкі заскок». На заўвагу Глуздакова: «А ты падкаваўся» Лявон адказвае: «Доўга коўзаўся, таму і падкаваўся». Ён хоць і паддаецца націску з боку Буйкевіча, жонкі і радні, але паддаецца неахвотна, здаецца паволі. «Толькі карову пакуль што», — амаль просіцца ён. У прызнанні Лявона «адзін у полі не воін», у яго згодзе аддаць і карову — разуменне сітуацыі, не больш. У тым, што ён вядзе дружбу з Глуздаковым, таксама не толькі яго віна. Відаць, Буйкевіч са сваімі аднадумцамі не да канца зразумелі характар гэтага чалавека, не здолелі захапіць яго рэальнымі калгаснымі справамі, якія б яму былі па душы як працаўніку. Яго дружба з Глуздаковым — гэта не дружба аднолькавых натур. Лявон бачыць Глуздакова наскрозь і ўмела кіруе яго настроем у сваю карысць, часам проста смяецца з яго: «Пенсію вы заслужылі, пара ўжо і пра сябе паклапаціцца, пра сваю старасць... А Амерыку няхай даганяюць маладыя. Не ў вашых гадах навыперадкі бегаць».

Вядома, лягчэй лёгкага кінуць Лявону папрок, што ён адсталы чалавек і ў сувязі з гэтым вінаваціць яго ва ўсіх грахах, асуджаць, патрабаваць, каб ён хутчэй падняўся на ўзровень свядомасці Буйкевіча і адразу стаў перадавым. Але ў камунізм людзі будуць ісці не ваенным строем. Партыя вучыць у рабоце з масамі прымаць спачатку людзей такімі, якімі яны ёсць, і пасля ўжо шукаць рэальных шляхоў для іх выпраўлення. Вінаваціць у адсталасці і перажытках калгасніка і мала рабіць для таго, каб ён стаў іншым — гэта рэшткі старога стылю кіраўніцтва масамі.

Адсюль, відаць, пры ўсёй смеласці і перспектыўнасці планаў Буйкевіча, Лушкі, Міхала, ёсць праўда і на баку Лявона. Гэту праўду не мог мінуць ні рэжысёр, ні акцёр, адчувае яе і глядач.

Паказаўшы Лявона не як дзівака ці злачынцу, падкрэсліўшы ў ім добрыя чалавечыя рысы, асабліва любоў да працы, тэатр раскрыў падтэкст п'есы, дапамог драматургу выразней данесці ідэю, што Лявон павінен «выйсці на арбіту», што яго працоўныя здольнасці не павінны марнавацца. Гэтая ідэя якраз у духу XXII з'езда, у духу намаганняў партыі мабілізаваць на ўздым сельскай гаспадаркі ўсе сілы калгаснага сялянства, усяляк развіваючы асабістую, у тым ліку матэрыяльную, зацікаўленасць чалавека ў агульнакалгаснай вытворчасці. Гэта якраз тое, што патрэбна Лявону.

І калі на прыкладзе спектакля «Лявоніха на арбіце» вырашаць пытанне, губляе ці развівае тэатр купалаўскія традыцыі, то зусім непатрэбна будзе шукаць фармальна-мастацкія супадзенні ў «Лявонісе на арбіце», з аднаго боку, і ў «Раскіданым гняздзе» і «Паўлінцы», з другога. Вернасць толькі фармальным асаблівасцям драматургіі Я. Купалы — не такі ўжо цяжкі шлях для драматурга і тэатральнага калектыву, бо ён не накладае ніякіх сучасных абавязкаў, не будзіць творчага неспакою, не вядзе да ідэйна-мастацкіх адкрыццяў. Таму настойлівая заклапочанасць вузка-мастацкім наследаваннем творчых традыцый мінулага выглядае сёння, мякка кажучы, старамоднай, а часам выклікае ў сваю чаргу трывогу: ці не палахлівасць гэта перад бурлівым жыццём, перад новымі і важнымі грамадскімі пераменамі?

Тэатр імя Я. Купалы ў спектаклі «Лявоніха на арбіце» быў верны купалаўскім запаветам і развіваў купалаўскія традыцыі якраз там, дзе ён не пайшоў за знешнім сюжэтам п'есы, узмацняў гуманістычнае гучанне спектакля, дзе ён аказаўся ўважлівым да праўдзівага адчування рэчаіснасці, выяўленага аўтарам п'есы.

Важнейшая задача мастацкай крытыкі заключаецца ў тым, каб памагаць тэатру быць на перадавых пазіцыях сучаснасці, абапіраючыся пры гэтым не толькі на аналіз сённяшніх тэатральных з'яў, але і актыўна выкарыстоўваючы творчы вопыт мінулага — вопыт і тэатра і літаратуры. Самавыхаванне гістарызму ацэнак — вось чаго бракуе нашай крытыцы, якая вывучае развіццё тэатра. Яго далейшы росквіт патрабуе вельмі рашучых намаганняў у гэтым кірунку.

## ФАБРЫЧНЫЯ ДЗЯЎЧАТЫ



**1.** У камітэце камсамола Гомельскай панчошна-трыкатажнай фабрыкі «8 Сакавіка» нам сказалі:

— З газеты «Літаратура і мастацтва»? Сядайце, калі ласка...

Прызнацца, такая сустрэча нас крыху здзівіла і... узрадавала. Узрадавала таму, што ў тым жа Гомелі, на адным з заводаў, нас сустрэлі зусім інакш:

— З газеты... як вы сказалі? «Літаратура і мастацтва»? Даруйце, але якое дачыненне мае наш завод да вашай газеты?

Фабрыка «8 Сакавіка» — вялікае, сучаснае прадпрыемства. Працуе тут больш трох тысяч рабочых — пераважна жанчын і дзяўчат. Сотні работніц, брыгад і ўчасткаў заваявалі ганаровае званне ўдарнікаў і калектываў камуністычнай працы.

У гэтым мы пераканаліся пазней і самі, калі знаёміліся з фабрыкай і яе людзьмі. Кожны цэх сустракаў нас полымем чырвоных сцяжкоў-трыкутнічкаў з надпісам: «Тут працуе ўдарнік камуністычнай працы».

У цесным пакойчыку камітэта камсамола пазнаёміліся мы з Тамарай Сташчанка, учотчыцай швейнага цэха нумар адзін. Тамара — член фабрычнага клуба сяброў кнігі, створанага тут. Узначальвае клуб інжынер Яўгенія Гамрэцкая. У савет клуба камсамольцы выбралі сваіх лепшых таварышаў. Сярод іх — Анатоль Кацуба, брыгадзір брыгады камуністычнай працы фарбавальнага цэха, матальшчыца Рая Галадзедава і іншыя. Мэта клуба — давесці кнігу да кожнага рабочага і работніцы фабрыкі.

Неўзабаве на тэрыторыі прадпрыемства пачне працаваць на грамадскіх пачатках кніжны кіёск. А пакуль што фабрычныя сябры кнігі прадаюць іх непасрэдна ў цэху, у сталовай, на агітпункце.

Тамара Сташчанка зайшла ў камітэт камсамола ўзяць новую партыю кніг.

ДУМКІ, ПРАПАНОВЫ, ЗАЎВАГІ

## ЧАМУ НЕ ЗВІНЯЦЬ ЦЫМБАЛЫ?

У розных кутках нашай рэспублікі жыве многа самародкаў-цымбалістаў. Неаднаразова прысутнічаючы на аглядах сельскай самадзейнасці, святах песні, я бачыў, як заўсёды ў іх актыўна ўдзельнічалі таленавітыя народныя музыканты. Аднойчы на традыцыйнае свята песні былой Маладзечанскай вобласці з'ехалася аж 70 сельскіх цымбалістаў.

З лепшых музыкантаў потым быў створаны самадзейны аркестр унісоннага гучання. Аднак, пры ўсіх намаганнях кіраўніка нельга было дамагчыся ад гэтага аркестра высокай культуры мастацкага выканання, бо яго ўдзельнікі карысталіся зусім простымі, самаробнымі інструментамі.

Пазней у раённых цэнтрах з'явіліся ў продажы цымбалы новай канструкцыі, але іх ніхто не купляў. Самадзейныя цымбалісты не ўмелі іграць на ўдасканаленых інструментах, на якіх трэба было іграць абавязкова па нотах. А хто гэтаму навучыць сельскіх аматараў музыкі? Хоць нашы музыкальныя вучылішчы і кансерваторыя штогод выпускаюць спецыялістаў-музыкантаў, рэдка хто з іх едзе кіраваць самадзейнасцю ў раённыя дамы культуры. Большасць выпускнікоў застаецца ў Мінску або ў абласных цэнтрах. А з вясковымі цымбалістамі няма каму працаваць. І таму даўнішняя мара — мець у кожным буйным цэнтры рэспублікі самадзейны цымбальны аркестр — застаецца па-ранейшаму не ажыццёўленай.

Праўда, мне ўдалося стварыць такі аркестр у Смаргоні. Мы наладзілі з яго ўдзельнікамі вывучэнне нотнай граматы, імкнёмся ўзняць тэхніку ігры на цымбалах. Здавалася б, справа павінна пайсці на лад. Але тут на нашым шляху сустрэліся новыя цяжкасці: дзе ўзяць патрэбны рэпертуар. У раённым цэнтры яго не знойдзеш. Ды, відаць, і ў Мінску яго няма, бо я ўжо звяртаўся з просьбай у Рэспубліканскі дом народнай творчасці прыслаць новыя творы для цымбалаў, але адказу да гэтага часу не атрымаў.

Усе гэтыя факты сведчаць аб тым, што ў рэспубліцы недастаткова ўдзяляецца ўвагі развіццю гэтага жанра народнай музыкі. Толькі ў двух-трох раённых дамах культуры (мяркуючы па рэспубліканскіх аглядах мастацкай самадзейнасці) існуюць цымбальныя аркестры, ды і тыя яшчэ не набылі высокага прафесіянальнага майстэрства і самабытнасці.

**А. ДЗЯРУГА,**
**заслужаны дзеяч культуры БССР.**

## ФОТАПАШТОЎКА — ЛЮСТРА ГОРАДА

Аднойчы мая дачка Валя — вучаніца пятага класа — атрымала ад балгарскай школьніцы Антаніны Пішлішавай паштоўку, на якой быў адлюстраваны адзін з куткоў яе роднага горада Самакова.

У сваю чаргу Валя рашыла паслаць сяброўцы памятную паштоўку са здымкамі Магілёва. Але такіх паштовак яна не здолела купіць ні ў кніжных кіёсках, ні ў магазінах.

Праўда, два гады назад фотапаштоўкі з відамі нашага горада прадаваліся на рагу кожнай вуліцы. Аднак, выпушчаныя малым тыражом, яны вельмі хутка разышліся. А вось пра выпуск дадатковага тыражу фотапаштовак ніхто не паклапаціўся. У Магілёве вельмі шмат прыгожых мясцін і гістарычных помнікаў. Будынак Дома Саветаў з цудоўнай плошчай і манументальным помнікам Ул. І. Леніну, Палац культуры, абласны драматычны тэатр, будынак партклуба—усё гэта добрыя тэматычныя аб'екты для фотапаштовак.

Фотапаштоўкі можна выпусціць і пра іншыя абласныя цэнтры. Яны — своеасаблівае люстра кожнага горада.

**Ц. РУЦЬКОЎ,**
**настаўнік.**

## ЖЫВЕ Ў ВЁСЦЫ МАСТАК-САМАВУЧКА

У праўленні сельгасарцелі «Камуніст» я заўважыў прыгожы плакат.

— Гэта зрабіў наш мастак-самавучка Антон Петрушэня,— сказалі мне. — Дома ў яго карцін, як у галерэі!

Сапраўды, калі я зайшоў у хату сельскага мастака, дык убачыў многа мастацкіх твораў, развешаных на сценах. Тут былі два аўтапартрэты, нацюрморт, партрэт дзяўчыны, копіі карцін Шышкіна «Раніца ў сасновым бары», «Восень». Вядома, не ўсе яны былі выкананы з аднолькавым майстэрствам, але ў кожнай з іх адчувалася рука таленавітага чалавека.

Пазней у брыгадным клубе вёскі Госціна, якім загадвае Антон Петрушэня, мне кінуліся ў вочы добра зробленыя сельскім мастаком партрэты, лозунгі, плакаты, транспаранты.

— Можа, і лепш маляваў бы, — паскардзіўся Петрушэня,—але ніякіх умоў для творчай работы не маю. Ды і з фарбамі, кісцямі цяжкавата. У раённым цэнтры іх амаль ніколі не бывае ў продажу...

Сапраўды, працаваць самадзейнаму мастаку нялёгка. Неяк звяртаўся ён за творчай дапамогай у Старадарожскі Дом культуры, там проста адмахнуліся ад аматара мастацтва: маўляў, і без цябе клопату хапае.

Дырэктар Дома культуры тав. Ратнер прызнаецца:

— Пра Петрушэню я чуў ужо не раз. Сапраўды, трэба было б яму памагчы. Але ўсё неяк часу не хапае. А па праўдзе кажучы, гэта і не ўваходзіць у мае абавязкі.

У раёне кожны год або раз у два гады наладжваецца выстаўка народнай творчасці. Але чамусьці работы А. Петрушэні ні разу не экспанаваліся на гэтых выстаўках. А шкада. Хіба самадзейны мастак не хацеў бы пачуць аб сваіх творах водгукі наведвальнікаў? Хіба іх парады не памаглі б яму у далейшай творчасці?

Гэты факт сведчыць пра тое, што яшчэ не ўсюды ў нас на месцах прыхільна ставяцца да мастацкай самадзейнасці і клапоцяцца па-сапраўднаму аб выхаванні новых талентаў з народа. Не зразумела таксама, чаму абласны Дом народнай творчасці і Саюз мастакоў БССР мала цікавяцца лёсам вось такіх мастакоў-самародкаў, як А. Петрушэня, і не памагаюць ім удасканальваць сваё майстэрства.

**М. ЧАПРАСАЎ,**
**слухач Мінскай вышэйшай партыйнай школы.**

Чалавеку гавораць ДЗЯКУЙ

## ДОБРЫЯ СПРАВЫ

Два гады назад на торфабрыкетным заводзе «Усяж» арганізаваўся жаночы савет. У яго ўвайшло трынаццаць жанчын — работніц гэтага прадпрыемства. Першае, за што ўзяўся савет, была мастацкая самадзейнасць.

— Нельга ж нам без яе, — на першым пасяджэнні выступіла старшыня савета Ніна Чарынкевіч.

— Паглядзіце: клуб маем аж на 300 месц. А што бывае там? Кіно ды танцы.

— Дык моладзі ж мала, — нехта запярэчыў.

— Гэта не адказ. Ды і хто гаварыў, што ў самадзейнасць павінна ісці толькі моладзь? Хіба мы не можам удзельнічаць? — абвяла ўсіх вачыма рахункавод Соф'я Еварова.

— Вядома, можам, — падтрымала кладаўшчыца Ядзвіга Гайдак. — Мне за пяцьдзесят ужо, а я першая пайду ў самадзейнасць. І не горш маладых прытупну нагой ды песню заспяваю.

Тады ж і было прынята рашэнне ўсім жаночым саветам удзельнічаць у самадзейнасці. А яшчэ кожны член савета павінен быў уцягнуць у самадзейнасць аднаго ці двух чалавек.

Праз які-небудзь тыдзень адбылася першая рэпетыцыя. Сабралася 40 чалавек. Гэта ўжо была перамога. Ядзвіга Гайдак прыйшла ўсёй сям'ёй. Яна сагітавала ўдзельнічаць у самадзейнасці сына Віктара і яго жонку Ірыну, якія сталі пазней асноўнымі ўдзельнікамі калектыву.

Самадзейны калектыў паставіў на сцэне некалькі п'ес, развучыў многа песень, беларускіх народных танцаў і танцаў народаў СССР. Ён выязджаў з канцэртамі ў раённы цэнтр, у суседнія сёлы.

І ўсё гэта рабілася па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам жаночага савета.

Жансавет клапаціўся не толькі пра самадзейнасць. У цэнтры яго ўвагі заўсёды стаяў чалавек. І калі з кім-небудзь здаралася бяда ці няшчасце, ён першы прыходзіў на дапамогу. Рабочы В. Бараноўскі параніў на працы нагу. Жонка таксама ляжала хворая. Не было каму дагледзець дзіця, якому яшчэ не было і года. У жаночым савеце параіліся і вырашылі па чарзе дзяжурыць у доме Бараноўскіх. Больш двух тыдняў хадзілі да Бараноўскіх жанчыны. Кармілі дзіця, упраўляліся з хатнімі справамі, аж пакуль не паднялася на ногі маці.

Клапоціцца савет і аб сем'ях рабочых. Ён навёў згоду (у добрым сэнсе гэтага слова) не ў адной сям'і. Неяк дачуліся жанчыны, што рабочы іх прадпрыемства Я. Грынь кінуў жонку. Ён часта быў п'яны, хуліганіў, біў жонку.

— Не, гэтага нельга дараваць, — захваляваліся ў жаночым савеце.

Я. Грыня выклікалі на пасяджэнне савета. Запрасілі і яго жонку Зосю. Жанчыны выступалі адна за адной, сарамацілі Я. Грыня, заклікалі да парадку. Крытыка падзейнічала. Я. Грынь не толькі вярнуўся да жонкі, але і перастаў піць гарэлку. Цяпер сям'я жыве дружна і шчаслівa.

Многа добрых спраў робіць жаночы савет. Ён карыстаецца вялікай павагай сярод рабочых. У яго шукаюць дапамогі, прыходзяць проста параіцца. Даручылі членам савета старанна праверыць і вырашыць, чыіх дзяцей у першую чаргу трэба накіроўваць у дзіцячы сад. Некалькі разоў жанчыны арганізоўвалі рэйд па інтэрнатах, дамах, дзе жывуць рабочыя. Калі выяўлялі нядобрае, адразу прымалі меры.

Дапамог наладзіць жаночы савет і работу сталовай.

За што б ні браліся жанчыны-энтузіясткі, кожную справу давядзілі яны да канца.

— Ого, наш жаночы! — з гордасцю гавораць рабочыя пра жаночы савет і яго работу.

**В. МАКАРЭВІЧ.**
Смалявіцкі раён.

## САВЕТ СЯБРОЎ КНІГІ

Рабочыя Мінскай абутковай фабрыкі імя Калініна ў вялікай дружбе з кнігай. У камсамольскім камітэце часта можна пачуць размову аб новых кнігах, якія паступілі на фабрыку. І гэта не дзіўна. Тут размяшчаецца штаб савета сяброў кнігі, які ўзначальваецца энтузіястам гэтай справы — работніцай цэха № 7 Аняй Асташонак.

Аня Асташонак вялікі аматар кніг. Яна сабрала добрую асабістую бібліятэку. У кніжнай шафе можна знайсці творы Пушкіна і Лермантава, Маякоўскага, Горкага, Янкі Купалы, а таксама палітычную і тэхнічную літаратуру. Любоў да кнігі Аня прывіла і сваім сяброўкам па рабоце. У кожным цэху фабрыкі працуюць упаўнаважаныя — грамадскія распаўсюджвальнікі кніг. Тут кожны рабочы можа заказаць неабходную кнігу, узяць яе ў крэдыт. Увогуле на фабрыцы пастаўлена справа так, што кожны рабочы можа рэгулярна папаўняць сваю асабістую бібліятэку. Толькі за год работы саветам сяброў кнігі фабрыкі прададзена каля 4.000 тамоў кніг. Цяпер многія рабочыя ўкамплектавалі асабістыя бібліятэчкі. Швейніца цэха Аня Гурыновіч, тэхнолаг Соня Галуза, табельшчыца Іра Шульц і іншыя маюць у асабістых бібліятэчках па 200 кніг.

Савет сяброў кнігі фабрыкі праводзіць шмат цікавых вечароў, прысвечаных кнігам. Так, у студзені гэтага года ў клубе фабрыкі адбыўся зімовы бал сяброў кнігі. Моладзь фабрыкі была здзіўлена, калі прачытала маляўнічую аб'яву аб зімовым бале і заўвагу аб тым, што ўваход на бал будзе дазволены па кнігах, купленых у грамадскіх распаўсюджвальнікаў. Бал прайшоў цікава. Юнакі і дзяўчаты кружыліся ў танцах, і кожны меў у руках кнігу. Затым была арганізавана літаратурная віктарына. На бале прысутнічалі беларускія паэты, цёпла сустрэтыя моладдзю. Многія купілі кнігі з аўтографамі.

Спадабаліся моладзі такія сустрэчы. Па рашэнню камсамольцаў з 19 па 25 лютага на фабрыцы праводзіўся Тыдзень кнігі пад дэвізам «Кожнаму рабочаму асабістую бібліятэку». У клубе гэтымі днямі адбыўся дыспут па раману А. Кулакоўскага «Расстаёмся ненадоўга». Старанна рыхтавалася моладзь да дыспуту. Многія выступілі з разглядам гэтага твора. На вечары прысутнічаў аўтар.

Цяпер штодзённа на тэрыторыі завода праводзяцца кніжныя базары. Арганізаваны продаж кніг у дамах, дзе жывуць рабочыя.

Нядаўна клуб фабрыкі запоўніла моладзь. Тут адбылася сустрэча з беларускімі пісьменнікамі і работнікамі выдавецтва. Загадчык рэдакцыі мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР М. Татур расказаў аб кнігах, якія неўзабаве выйдуць з друку. На вечары з чытаннем твораў выступілі пісьменнік Р. Сабаленка, паэты Р. Няхай, А. Бялевіч, Э. Агняцвет і А. Дзеружынскі. Удзельнікі сустрэчы набылі кнігі пісьменнікаў з аўтографамі.

**В. ГОДАС,**
**намеснік дырэктара Цэнтральнага кніжнага магазіна.**

Грыгорый КУРАНЁЎ

## На беразе Палаты

Рускі паэт Грыгорый Куранёў у час Вялікай Айчыннай вайны быў разведчыкам. Ён удзельнічаў у баях за вызваленне Полацка. Яго паэма «На беразе Палаты» — «дзённік» пасляваенных сустрэч, роздуму і ўспамінаў пра тыя мясціны, дзе прайшла маладосць паэта, дзе ў час вайны загінулі яго многія сябры і дзе цяпер велічна ўздымаецца горад беларускіх нафтабудаўнікоў. Аўтар і назваў яе «Паэмай сустрэчы». Друкуем урыўкі з паэмы.

ПАМЯЦІ УСЕВАЛАДА ІАРДАНСКАГА

Пад Полацкам
было так:
мутная Палатá,
лес падабстрэльны,
рэдкі,
а я —
камандзір разведкі.
На беразе Палаты
калісьці быў маладым.
1944 — 1947 гг.

У рамонку вал
увесь
Івана Грознага,
вал многапакутны
вартавы.
Я ж стаю
ў рамонку гэтым росным,
ледзьве веру ў тое,
што
жывы.
Усё здаецца мне:
у час былы
ляцім мы,
я ў разведцы
зноўку —
на вайне.
Зноўку
я мінулай ноччу
пабрацімаў
пагубляў
абапал па Дзвіне.
І няма
для апраўдання тут
прычыны,
хоць і
мінамёты
білі
ўслед
не ў лад.
Зараз мне
ісці к камдзіву,
к Чынаву,
з двухвярстоўкай пашарпанай
на даклад.
І на карце паказаць,
што зачапіўся
вораг —
тут вось,
вось за гэтым
рубяжом.
Але хіба
ў горадзе Даўгаўпілсе
наш камдзіў не спіць
шаснаццаць год ужо!
У смузе світальнай
Полацк
і Дзвіна.
Пятнаццаць год,
як скончана
вайна.
Да Нафтабуда
прабягаюць
самазвалы,
рукой падаць
да мутнай Палаты.
А я стаю,
зусім
як самазванец,
які не быў
ніколі
маладым...
. . . . . . . . .
Што —
маладосць,
калі
так сонца
льецца!..
На крапасным валу
каза пасецца,
а я стаю, нібы
бацян.
Дзяўчо
рамонкі рве, віе
вянок ля самых ног.
Чаму я тут —
дзяўчынцы
і няўцям.
Так пазірае
на мяне, што сэрца
рвецца ад трывог.
Нібы з'явіўся я
з нязнанае
планеты.
А сонца
падымаецца
увысь,
і мроіцца —
пачую
зараз:
— Вы адкуль ўзяліся?
О, пэўна
з месяца яны!
— Не,
я — на шмат
далей...
З вайны.
. . . . . . . . .
На відавоку
я стаю,
нібыта —
годы.
Прахожыя
вакол
снуюць.
Не пазнаеш
мяне ты, горад!
І я цябе
не пазнаю.
Ты не пазнаць мяне,
вядома,
можаш.
Я
не такі ўжо вяльможа —
глянь, толькі —
камандзір
разведузвода.
Але цябе
запомніў я
у час нягоды,
нібы ў
каменаломні,
ў друзе
хлебзавода.
Запомніў я цябе
ў руінах
у час сутычкі,
у вайне,
ў цагельных
грудах-перашкодах.
Ты паказаўся
невялічкім
у двухвярстоўцы на планшэце.
Ды нават і такі
на свеце
дораг
майго
ваеннага
юнацтва
горад.
. . . . . . . . .
Раённага значэння
«Эрмітаж»
за мураванаю
царкоўнай агароджай.
І паказальнік,
што падняў стралу,
як страж:
«Аддзел вайны».
Мінуць яго
не зможаш.
У скляпенні храма
змрок усё заткаў
(А ці Мікола гэта,
а ці, можа, Спас).
Не вершы Сімеона Полацкага
ў старасвецкіх завітках
прыйшоў я паглядзець,
не мудрагелістую вязь...
І не шукаю я
спрадвечных скарбаў тут —
здалёк іду,
каб адшукаць
сляды таварышаў
мне па крыві
і гэты кут,
і невядомую
магілу кампалка.
Пачціва
павялі
экскурсаводы
па цесных залах
камандзіра ўзвода.
Мінаю я
малюсенькія залы,
дзе дыяграмы
тлушчу, сала,
і жыта буйнага, і малака,
і некамплектных мамантаў
астанкі.
А мне туды,
дзе —
хоць на здымках! —
танкі,
бо я ж хачу знайсці
магілу кампалка.
Не,
тут не проста,
дзе ні глянь,
рэліквіі,
пра подзвігі сяброў

# ТРЫ СІМФОНІІ

Да IV з'езда кампазітараў Беларусі

Тамара ДУБКОВА.

Пра сваіх равеснікаў пісаць і лёгка і цяжка. Мы разам раслі, разам вучыліся. Усіх іх добра ведаеш, памятаеш, як яны прыйшлі ў кансерваторыю яшчэ зусім маладыя, як кажуць, «зялёныя», але з упартым жаданнем сказаць сваё слова ў музыцы. Памятаеш, як у іх нараджаліся першыя думкі аб сімфоніях, а потым першыя тэмы сімфоній, памятаеш абмеркаванні, гарачыя спрэчкі, і тое, з якім хваляваннем мы чакалі першага выканання новых твораў нашых таварышаў. І вось, на IV з'ездзе кампазітараў нашай рэспублікі разам з творамі вядомых і заслужаных майстроў беларускага музычнага мастацтва прагучаць першыя сімфоніі маладых аўтараў Р. Бутвілоўскага, Д. Смольскага і Ул. Чараднічэнкі, якія прыйшлі ў беларускае музычнае мастацтва паміж III і IV з'ездамі.

Сімфоніі Р. Бутвілоўскага, Д. Смольскага, Ул. Чараднічэнкі маюць многа агульнага. Маладыя кампазітары звяртаюцца да вобраза свайго сучасніка, да яго пачуццяў, перажыванняў, настрояў. Змест усіх сімфоній драматычны. Кампазітары смела ідуць на востраканфліктнае супрацьпастаўленне музычных вобразаў. Найбольш каштоўныя якасці ўсіх трох сімфоній — шчырасць і ўсхваляванасць аўтарскіх адносін да тэмы, да свайго героя.

Многія старонкі ўзрушаюць глыбінёй, сілай і праўдзівасцю пачуццяў, цеплынёй і шчырасцю выказвання.

Усе сімфоніі непраграмныя. Вобразная канцэпцыя аўтараў раскрываецца сродкамі музычна-драматургічнага развіцця, хаця ў Ул. Чараднічэнкі больш яскрава, чым у іншых, выяўляюцца элементы сюжэтна-апісальныя, ілюстрацыйныя. Ва ўсіх трох творах наглядаецца тэндэнцыя да арганічнага зліцця частак або праз монатэматызм (у сімфоніі Д. Смольскага ўзаемасувязь частак больш арганічная, таму што яна народжана ўнутранымі суадносінамі вобразаў), або праз вобразна-тэматычныя рэтраспекцыі, як у сімфоніях Р. Бутвілоўскага і Ул. Чараднічэнкі.

Якімі сродкамі карыстаюцца маладыя кампазітары?

Сімфонія Ул. Чараднічэнкі змястоўная і тэматычна разнастайная. Твор вабіць да сябе эмацыянальнай канкрэтнасцю і насычанасцю вобразаў, цеплынёй і свежасцю мовы. Кампазітар піша лаканічна і ў той жа час яго вобразы вызначаюцца рэльефнасцю. Яны ўвасабляюцца ў тэмах, процілеглых адна адной па характару. Гэта дзве канфліктныя сферы вобразаў-тэм: дынамічныя, поўныя ўнутранай сілы, энергіі і лірычныя, шырокага дыхання тэмы, якія асацыіруюцца з шырокімі прасторамі, светлымі пейзажамі (сярод іх яскравая і чароўная ў сваёй прыгажосці тэма сярэдняй часткі скерца, блізкая інтанацыйна да беларускіх народных песень). Наогул, у стварэнні тэм Ул. Чараднічэнка выявіў яркае меладычнае мысленне. Сімфонія яго эмацыянальна пераконвае слухача, прымушае верыць таму, што гаворыць аўтар.

Перад кампазітарам стаяла складаная задача: паказаць станаўленне актыўных стваральных сіл. Ён адчуў характар эмоцый, уласцівых нашаму часу і нашаму народу, і ў гэтым праявіў аналітычную назіральнасць. Колькі заўзятай весялосці ў жанравым, падобным амаль на частушку, скерца — карціне маладзёжнага свята! Уменне радаваць слухача, так добра раскрытае ў сімфоніі, — цудоўная якасць таленту Ул. Чараднічэнкі.

Канкрэтна і дакладна ахарактарызаваўшы вобраз, стварыўшы музычную тэму, якая мае вялікія магчымасці, кампазітар, аднак, вельмі скупа развівае яе. Схематычныя і аднатыпныя прыёмы развіцця вобраза, няўменне карыстацца ўсім комплексам выразных сродкаў, асабліва ў распрацоўках, абмежаванае і няпоўнае выкарыстанне паліфанічных прыёмаў, стылістычная стракатасць — усё гэта значна збядняе твор Ул. Чараднічэнкі, спрашчае і робіць бледным удала знойдзены аўтарам вобраз. У выніку (а мы ж вызначаем вынік не па якасці асобных элементаў, а па сіле і глыбіні непасрэднага ўздзеяння ўсяго твора на слухача) — сімфонія па яскравасці і значнасці ўступае састаўным сваім часткам, гэта значыць, асобным вобразам, эпізодам, раздзелам.

Немагчыма поўна і гучна ўвасобіць драматызм эпохі, гераіку і рамантыку нашай штодзённай працы, не ствараючы шматгранныя вобразы сучаснікаў. Гераіка і лірыка, патэтыка і камерная інтымнасць, жыццярадаснасць і баявы заклік маюць законнае права на існаванне ў савецкім мастацтве. Але пры гэтым вельмі важна, як іх разглядае кампазітар, на чым робіць акцэнт. У дадзеным выпадку размова ідзе пра арганічнае адзінства грамадскага і асабістага, аб'ектыўнага і суб'ектыўнага.

У сімфоніі Ул. Чараднічэнкі аб'ектыўнае раскрываецца крыху павярхоўна, больш са знешняга боку. А Р. Бутвілоўскі ўносіць у трактоўку свайго героя многа асабістага, што надае сімфоніі адценне маналога. Кампазітар імкнецца ўвасобіць у музыцы вобраз моцнага чалавека і гэтаму падпарадкоўвае выбар сродкаў выяўлення. Лаканічнае выкладанне думак, характэрныя для вобразнага ладу сімфоніі ўнутраная сабранасць і валявая мэтанакіраванасць добра раскрываюць пастаўленую задачу.

Сімфонія Р. Бутвілоўскага — гэта традыцыйны цыкл, які складаецца з чатырох частак. Галоўнай асаблівасцю ўсіх частак цыкла з'яўляецца інтэнсіўнасць музычна-драматургічнага развіцця. Але часам кампазітар не разлічвае свае сілы: раптоўныя спыненні дынамічнага нарастання вядуць да неўраўнаважанасці. У сімфоніі шмат пераломных момантаў, якія парушаюць логіку музычнага развіцця. Не ўсе тэмы твора аднолькава каштоўныя па сваёй меладычнай выразнасці. Да найбольш удалых можна аднесці галоўныя тэмы першай часткі і фіналу, абедзве тэмы трэцяй часткі, простую чаканную маршавую тэму фіналу. Сімфонія Р. Бутвілоўскага не належыць да тых твораў, якія вылучаюцца сваёй незвычайнасцю. Але яна мае сваё аблічча. Рысы інтэлектуалізму і шчырасць у раскрыцці вобраза нашага сучасніка робяць гэты твор цікавым і прывабным.

Пры адпаведнай прафесіянальнай тэхніцы (а Р. Бутвілоўскі, Д. Смольскі і Ул. Чараднічэнка нядрэнна валодаюць ёю) здольнасці праяўляюцца перш за ўсё ў стварэнні **меладычных** вобразаў. Бо ад таго, **як** кампазітар адчуў эпоху, **якім** ён уяўляе сабе свайго сучасніка, залежыць выбар аўтарам інтанацыйна-меладычных сродкаў. Інтанацыйны адбор — гэта творчы працэс, вынікі якога вызначаюць поспех або няўдачу інтанацыйна-меладычнага ўвасаблення вобраза сучасніка. І ніякімі тэхнічнымі мудрагельствамі і выдумкамі, ніякімі, нават самымі незвычайнымі і цудоўнымі аркестравымі фарбамі не прыкрыць недастатковую выразнасць меладычнага вобраза. А нашы маладыя кампазітары не заўсёды ўважліва і чула адносяцца да адбору інтанацый. Нават вельмі яркія эмацыянальна, а часам і цікавыя мелодыі Р. Бутвілоўскага, Д. Смольскага, Ул. Чараднічэнкі не даюць яшчэ падставы гаварыць аб узнікненні новых інтанацый-

(Заканчэнне на 4-й стар.)

# ТАК ТРЫМАЦЬ!..



**У сувязі з 50-годдзем Уладзіміра Карпава праўленне СП Беларусі паслала юбіляру прывітанне, у якім гаворыцца:**

**«Дарагі Уладзімір Барысавіч!**

**Горача віншуем цябе, нашага таварыша па пяру, з 50-годдзем з дня твайго нараджэння.**

**Ты прыйшоў у беларускую літаратуру ў першыя пасляваенныя гады, маючы ўжо за плячыма багаты жыццёвы вопыт — настаўніка ў сельскіх школах у даваенны час, актыўнага ўдзельніка партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Крытычныя артыкулы і нарысы, з якімі ты выступіў у друку ў пачатку свайго літаратурнага шляху, звярнулі ўвагу грамадскасці актуальнасцю праблем, шчырай заклапочанасцю ў далейшых поспехах беларускай літаратуры.**

**Твая працяглая работа ў рэдакцыі часопіса «Полымя» ў якасці рэдактара прозы спрыяла прыходу ў нашу літаратуру здольнай моладзі.**

**Ад пачатку пяцідзесятых гадоў, з надрукаваннем першай аповесці «Без нейтральнай паласы», ты актыўна працуеш у жанры прозы. Раманы «За годам год», «Вясеннія ліўні», «Нямігі крывавыя берагі» — гэта своеасаблівая гісторыя беларускай сталіцы Мінска на працягу апошніх дваццаці год, часу вялікіх падзей у жыцці нашай краіны. Гэтыя раманы прасякнуты савецкім патрыятызмам, імкненнем праўдзіва і ярка адлюстраваць нашу рэчаіснасць, з'яўляюцца значным укладам у пасляваенную беларускую прозу.**

**Нам прыемна адзначыць, што ты зараз у росквіце творчых сіл. Жадаем табе, дарагі Уладзімір Барысавіч, добрага здароўя, доўгіх год жыцця, новых творчых поспехаў».**

Калі я чытаю яго раманы, артыкулы, гавару з ім, мне чамусьці здаецца, што ён на многа старэйшы за мяне, хоць у мяне за плячыма гадоў на пяць большы жыццёвы стаж. І гэтае адчуванне не выпадковае. Як я і ведаю Уладзіміра Барысавіча Карпава, ён заўсёды мне здаваўся нейкім мудрым, абцяжараным жыццёвым вопытам чалавекам. Здаецца, пра што ў яго ні папытай, ён заўсёды дасць такі адказ, які паможа табе ў тваім клопаце.

Але вернемся трошкі да мінулага. З Уладзімірам Карпавым я пазнаёміўся неўзабаве пасля вайны. У той час ён яшчэ не напісаў сваіх раманаў і больш быў вядомы, як крытык. Карпаў прыехаў быў тады ў Баранавічы па сваёй справе і, вядома, як і кожны пісьменнік, не мінуў рэдакцыі абласной газеты, дзе я працаваў. Я вунь як быў рады пачытаць яму свае вершы. Але вершы мае ён успрыняў без энтузіязму. Чаму — неўзабаве я сам зразумеў: у большасці вершы былі рытарычныя, напісаныя як рыфмаваная ілюстрацыя да бягучых падзей і спраў. Мяне гэта трошкі і пакрыўдзіла, як, мабыць, і кожнага б з паэтаў. Але Карпаў, не зважаючы на тое, што быў маім госцем, не саладзіў майго самалюбства ружовенькім сіропам пахвальбы, а, паводле народнай прыказкі, еў мае хлеб і соль і рэзаў праўду мне ў вочы. І, мабыць, гэтае больш за ўсё пераканала мяне, што чалавек мне зычыў дабра.

Ужо ў той час я падумваў аб прозе. І не толькі падумваў, але і спрабаваў, вырываючы са скупога бюджэту рэдакцыйнага часу якую гадзіну для прозы. Праўда, я нікому не паказваў таго, што пішу, хоць размахнуўся быў на вялікае — на цэлы раман. Меў на ўвазе напісаць пра чалавека, які, прайшоўшы вайну, вярнуўся на руіны роднага котлішча і ўзяўся будаваць новае жыццё. Вопыту пісаць прозу я яшчэ не меў, і мне карцела паказаць напісанае больш дасведчанаму чалавеку.

І от я чытаю. Карпаў слухае, трошкі прыжмурыўшы вочы. Бачу, як адбіваецца на ягоным твары тое, што ён чуе. І калі б ён нават мне не захацеў выказаць сваю думку пра тое, што слухаў, я ўсё адно ведаў, які водгук у яго душы выклікала прачытанае: адно нічым не закранула ні яго думак, ні пачуццяў, а другое нечым усхвалявала, узрушыла. Я тады пераканаўся, што пісьменнік ніколі не быў і не можа быць абыякавым да мастацкага слова. Яно ці то яго радуе, ці абурае, але не пакідае абыякавым. Пасля таго, як я прачытаў некалькі раздзелаў, Карпаў доўга яшчэ маўчаў, прыплюшчыўшы вочы. Нарэшце вымавіў:

— А ведаеш, Раман, ты мне яшчэ раз прачытай пра тое, як дзед Яўхім вартаваў грушы.

— А што, хіба дрэнна напісана?

— Прачытай, прачытай. Яшчэ раз хочацца паслухаць.

І я перачытваю сцэну з дзедам Яўхімам. «Натаміўшыся за дзень на касьбе, баючыся, каб уночы не абабралі грушу, ён падкаціў воз пад дрэва і лёг на ім спаць. Стары заснуў гэтак моцна, што не пачуў нават, як яго з возам выкацілі на вуліцу і там пападвязвалі ўгару аглоблі, быццам дзед прыехаў на кірмаш. Накалаціўшы поўныя запазухі мядовых груш, хлопцы яшчэ падвязалі для кепікаў некалькі фунтовак да аглабель, быццам дзед прадае іх».

— Вока бачыць добра. За прозу табе варта брацца, — толькі і пачуў я ад Карпава.

Пасля ўжо, як пераехаў у Мінск, кожны раз, калі сустракаўся з Карпавым, я з удзячнасцю да яго прыгадваў тыя словы.

Уладзімір Барысавіч быў маім сябрам. Але ён быў яшчэ і рэдактарам аддзела прозы часопіса «Полымя». Памятаю, як я прынёс у часопіс першыя свае празаічныя творы. Мабыць, не я адзін, а ўсе, хто друкаваўся ў «Полымі», памятаюць карпаўскі карычневы аловак. Аўтары звычайна вельмі балюча рэагуюць на рэдактарскія «птушкі». Гэта і зразумела: кожнаму пісьменніку, які сур'ёзна ставіцца да таго, што ён піша, шкада нават аднаго свайго слова, калі яму яго выкрэсліваюць ці замяняюць. Калі я прыходзіў да Карпава і бачыў на палях рукапісу цэлую ферму карычневых «птушак», дык у мяне ледзь не абрывалася сэрца: няўжо я такі няўмека? Але па меры таго, як рэдактар растлумачваў, чаго ён хоча, сэрца станавілася на месца, бо я пераконваўся, што рэдактар хоча, каб твор быў лепшы, каб кожнае слова было тым словам, якога не заменіш і не выкінеш. Я быў удзячны Уладзіміру Барысавічу.

У 1957 годзе я прынёс у «Полымя» першую сваю аповесць «Юнацтва ў дарозе». Сэрца ледзь не выскаквала з грудзей, як у таго вучня, калі той вось-вось павінен стаць перад экзаменатарам і не ведае, які яму трапіцца білет. Кожны дзень я наведваўся ў «Полымя». Прыходзіў быццам так пасядзець у той пакой, дзе працаваў Карпаў. Гаварылі пра ўсё, але толькі не пра аповесць, хоць мне і карцела даведацца: а можа, ён прачытаў ужо, мо тым самым карычневым алоўкам напісаў на ражку першай старонкі: «Не пойдзе. Слабая»? Але ён — ні слова, ні паўслова пра аповесць, быццам яе наогул на свеце не было.

А пры сустрэчах сябры мне казалі:

— Кажуць, ты добрую аповесць напісаў?

— Адкуль вы ведаеце, што я напісаў?

— Чутка такая ходзіць.

Гэтак мы і гулялі ў маўчанку месяцы з два. А потым ён паклаў перада мною рукапіс, які абселі карычневыя «птушкі». Я ажно спалохаўся. Але, як высветлілася, «птушкі» тыя былі не такія цяжкія і хутка разляцеліся. Аповесць была здадзена ў набор.

У працы пісьменніка вельмі важны разумны, чулы рэдактар, і Уладзімір Карпаў быў такім рэдактарам. Гэта кажу не я адзін. Гэта могуць сказаць амаль усе тыя празаікі — і маладыя, і старэйшыя, — якім давялося працаваць з Карпавым над рукапісамі ў бытнасць яго рэдактарам аддзела прозы часопіса «Полымя».

Але Уладзімір Карпаў не столькі рэдактар і крытык, колькі празаік, раманіст са сваёй тэмай, са сваім бачаннем свету, са сваімі героямі, са сваім мастацкім почыркам. У прозу прыйшоў ён з партызанскіх акопаў. Чалавек, мабыць, не мог затаіць у сабе той багаты матэрыял, які сабрала ягонае сэрца за суровыя гады выпрабаванняў, і ўзяўся за пяро. У канцы саракавых гадоў на старонках «Полымя» з'явіўся першы празаічны твор Карпава «Без нейтральнай паласы». Гэты твор, вядома, быў яшчэ недасканалы: у ім падзеі, факты былі пададзены як бы навалам, быццам пісьменнік хацеў адразу выказаць усё тое, што бачыў, што перажыў. Аднак, важна тое, што гэта быў пачатак той вялікай дарогі, на якую ступіў пісьменнік, каб не збочыць з яе цягам доўгіх год.

От перада мною два ёмістыя тамы. Гэта — «За годам год» і «Вясеннія ліўні». Неўзабаве павінен выйсці з друку і трэці том «Нямігі крывавыя берагі». Я захапляюся працавітасцю пісьменніка, яго ўлюбёнасцю ў жыццё, у нашага сучасніка. Яшчэ тады, калі Карпаў працаваў над раманам «За годам год», аднаго разу мы доўга хадзілі па праспекце, на якім яшчэ відны былі сляды вайны. Ён захоплена расказваў мне пра кожны дом, што вырас ужо ці яшчэ стаяў у рыштаваннях. Расказваў з такімі падрабязнасцямі, з такой дасведчанасцю, што калі б я не ведаў, што поруч са мной пісьменнік, дык не іначай бы падумаў, што вяду гутарку з галоўным архітэктарам горада ці з якім кіраўніком будаўнічай арганізацыі. Ён ведаў пад'ёмныя краны, бульдозеры, ведаў людзей ад інжынера да муляра.

— Валодзя, адкуль ты ўсё гэта ведаеш? — сумеўся я.

— А як жа я магу не ведаць. Хіба ж бы я мог пісаць раман, не ведаючы ўсяго гэтага. Мяне будаўнікі хацелі нават залічыць на пасаду прараба, — пажартаваў пісьменнік. — Але я адмовіўся. Няма калі. Пісаць трэба.

Я тады ўжо зразумеў, што Уладзіміру Карпаву трэба, абавязкова трэба пісаць пра тое, што ён мне расказваў. Ён быў перапоўнены ўражаннямі, думкамі, якіх нельга было трымаць у сабе. Ім трэба было даць прастор на старонках кніг, і яны, шчодра зачэрпнутыя з жыцця, узбагачаныя і асветленыя пісьменніцкім талентам, сагрэтыя ягоным сэрцам, павінны зноў пайсці ў жыццё, хваляваць і радаваць людзей.

Праз колькі часу Уладзімір Барысавіч даў мне прачытаць рукапіс рамана. Я чытаў і пазнаваў, быццам не ўпершыню сустракаўся з імі, — і Урбановіча, і Алешку, і Зімчука, і Кавалеўскага, і Зосю, усіх тых насельнікаў, якія знайшлі сабе месца на прасторнай жылплошчы рамана. А жылплошча рамана сапраўды прасторная. На ёй адбываецца многа радасцей і трагедый, узрушэнняў і хваляванняў людскіх, і, калі чытаеш пра ўсё гэта, міжволі пачынаеш верыць, што пісьменнік, які спарадзіў гэтыя вобразы, не іначай, як з кожным з іх пажыў, як той казаў, з'еў не адзін пуд солі. Нельга ж так расказаць пра людзей, не будучы іх блізкім знаёмым, больш таго — прыяцелем, якому кожны з гэтых людзей не раз паспавядаўся і ў сваіх радасцях, і ў сваіх грахах. Нельга, не ведаючы блізка чалавека, выразна бачыць бляск яго вачэй, чуць і адрозніваць яго голас. Не зайшоўшы ў хату чалавека, нельга ведаць, дзе ў яго стаіць канапа, на якім зэдліку ці крэсле ён любіць сядзець, што ён лепш за ўсё любіць есці, як і пра што ён можа гаварыць. Гэта, здаецца, дробязі быту, але з гэтых дробязей складаюцца вобразы, вымалёўваюцца людскія характары, праз іх раскрываюцца душы.

Вось Аляксей Урбановіч. Я ўжо даўнавата чытаў раман, але і сёння бачу тое, як ён мураваў сваю халупіну, як Зося прыносіла на полудзень яму цёплыя дранікі і як прагавіта ён іх еў. Без гэтай муравання не было б таго Урбановіча, якога мы бачым у рамане. Магчыма, вобраз сам па сабе і быў бы, але не было б іменна Урбановіча з яго характарам, з яго настырнай гаспадарлівасцю. Вялікая справа для пісьменніка знайсці для кожнага свайго героя занятак і не толькі для таго, каб ён за нешта зачапіў рукі, але больш для таго, каб праз гэты занятак высвятлілася яго душа. Мне здаецца, што Карпаў, калі не для ўсіх, дык для большасці сваіх герояў знаходзіць такі занятак.

У свой час у нашай крытыцы з'явілася нямала артыкулаў пра раман «За годам год». Шукаліся нават нейкія паралелі карпаўскіх герояў з героямі Кузьмы Чорнага. Я хацеў бы тут мімаходзь сказаць пра марнасць такога занятку, бо ведаю адно: усё, што ёсць у рамане, прайшло праз сэрца пісьменніка, яно стала яго жыццём. Няхай у раманах Карпава трошкі абцяжараная стылістыка, няхай у іх, можа, праз меру тэхналогіі, няхай не ўсе вобразы выпісаны дастаткова выразна, але я ніяк не магу пагадзіцца з тым, што гаварыў на нядаўнім пленуме Саюза пісьменнікаў адзін з прамоўцаў, быццам абодва раманы Карпава — гэта ілюстрацыйнасць, халодная «рассудочность». Няпраўда гэта! Раманы Уладзіміра Карпава — гэта творы нашага сучасніка пра нашых сучаснікаў, і я іх бачу не як плакатную ілюстрацыю, а як вобразы жывых людзей, сваіх сяброў і паплечнікаў. Яны не на адзін твар, не на адну душу. Кожны з іх з трапяткім сэрцам, з неспакойнай думкай, з неўтаймоўным клопатам пра наша жыццё.

Мне неяк давялося быць на канферэнцыі чытачоў па раману Ул. Карпава «За годам год». Як заклапочана гаварылі чытачы пра вобразы рамана! Яны і крытыкавалі пісьменніка з клопатам пра тое, каб новыя творы аўтара былі яшчэ лепшыя. А каб чытач бачыў у раманах схему, ілюстрацыю, ён бы, відаць, не пасаромеўся сказаць пісьменніку праўду ў вочы, як не саромеецца рабочы люд крытыкаваць адзін аднаго за дрэнную прадукцыю.

Дарэчы, кнігі Карпава вельмі шырока абмяркоўваюцца сярод чытачоў. Я, напрыклад, ведаю, што раман «Вясеннія ліўні» некалькі разоў абмяркоўваўся ў студэнцкіх аўдыторыях, у рабочых калектывах, сярод партыйных работнікаў, у колах інтэлігенцыі і нават сярод калгаснікаў, хоць раман расказвае пра жыццё рабочага класа. Прычым, гэта не арганізаваныя кім-небудзь канферэнцыі. Гэта ініцыятыва і клопат саміх чытачоў. А да гэтага трэба прыслухоўвацца, трэба ўлічваць, бо яно азначае, што наш патрабавальны чытач бярэ на ідэалагічнае ўзбраенне творы пісьменніка.

Я не збіраўся ў гэтых нататках пра свайго сябра, якому сёння споўнілася 50 год, ні палемізаваць з крытыкамі ні аналізаваць творы пісьменніка, прасочваць, як кажуць, ягоны творчы шлях. Мне толькі хацелася выказаць некалькі думак пра выдатнага нашага пісьменніка-раманіста, сказаць Уладзіміру Барысавічу:

— Так трымаць! Так трымаць і надалей па курсу нашай сучаснасці, бо гэты курс правільны і ён прынясе табе не адну яшчэ творчую перамогу.

Доўгіх год жыцця табе, дружа, у добрым здароўі! Творчых удач табе!

Раман САБАЛЕНКА.

## ФАБРЫЧНЫЯ ДЗЯЎЧАТЫ



2. Мы трапілі на фабрыку ў пачатку рабочага дня. У цэхах і на ўчастках ішла размераная, звычайная, будзённая работа. Вырашылі не перашкаджаць людзям, не рабіць ніякіх інсцэніровак. Проста рашылі прайсці па фабрыцы і пры дапамозе фотааб'ектыва адзначыць тое, што здасца цікавым у духоўным жыцці работніц.

На бабінажна-перамотачным участку мы сустрэлі кантралёра вязальна-трыкатажнага цэха Марыю Кавалёву. Яна прынесла газеты матальшчыцы, ударніцы камуністычнай працы Марыі Караткевіч.

Пацікавіліся, у чым справа. Аказваецца, кожная работніца фабрыкі выпісвае газету ці часопіс. Іх дастаўляюць непасрэдна на фабрыку, у цэх, каб тут, у час абедзеннага перапынку, можна было даведацца аб апошніх навінах з жыцця краіны і за мяжой.

скупыя весткі.
Тут,
у былой царкве,
ніякае рэлігіі —
на кожным павароце
майго тут
пакалення
бессмяроцце.

Глядзяць
з прасценкаў
міжваконных,
вузкіх
абліччы, блізкіх мне
калісь
па ўзросту,
хлапцоў да болю
простых,
дваццацігадовых,
рускіх,
і —
не святых,
вялікіх гэтакіх
папросту.
Ляжаць
газет
струхлелыя палосы
з загадам
вызвалення Полацка.
Не трэба мне
з-пад шкла
выцягваць
стосы газет,
не трэба адгінаць
іржавы цвік.
Артыкулы
яшчэ жывога
Іарданскага
убачыў я
і ў іх наскрозь
пранік.
Не,
тут не проста
экспанаты зложаны,
яны —
не проста
сталь-жалеза;
значэнне ёсць тут
асаблівае у кулі кожнае,
у кожнай гільзы,
кожнага абрэза.
Калі вайна
навек замоўкне
адранцвелая,
і запануе
слова «Мір»
у свеце,
дык і тады
не ўсе, паверце,
перакуюць
мячы
ржавелыя! —
Пакінуць,
каб нашчадак ведаў,
у заўтра ідучы,
да новых даляў,
што перамогу
дарам нам
не далі.
. . . . . . . . . . .
— Гэй, кепка!
Ля дзвярэй
не трыся тут!
Плацілі ўсе! Перадавайце!
Акно не адчыняйце,
скразняком як вее...
Кошт за праезд
на Нафтабуд —
сорак
пяць
капеек.
. . . . . . . . . . .
Адтопчуць мазоль,
не крыўдуй,
гэта ж
не знарок.
Вёрстаў
дзесяткаў з паўтара
сядзеў бы
ля адчыненых вокан.
Але месца
бяруць тут з бою,
нібы варожую
амбразуру
засланяюць сабою.
У гэтым
рослыя
робы
маюць
вялізны вопыт.
На нейчым плячы
ляжу,
у некага
ўпёрся каленам.
На ўсе
зрэнкі
гляджу
на ранішняе
пакаленне.
Няма калі
задрамаць
суседзям
злева
і справа,
уткнуўшыся
ў «Сапрамат»
і «Фізіку цвёрдых сплаваў».
І хоць адзін
зірнуў бы
не ў кнігу,
праз шыбу
на поле, дарожкі...
Дык вось яно,
узросшае
на беларускай бульбе, —
што па-расійску
«картошка», —
новае
пакаленне,
гордае
папаўненне
працоўнага
класа.
А я
гатоў пакляціся,
што недзе
сустракаў іх,
многіх,
на франтавых
дарогах.
Сусед мой —
з-пад Сіроціна
хлапчына!
Вось ён
і застаўся ў вачах...
«За Айчыну!»
прыглушана
ноччу крычаў.
Сустракаў
яго ноччу,
калі сцяжынай
воўчай
ішоў з разведкі,
за смяротнай палоскай,
ля світальных палеткаў.
. . . . . . . . . . .
Бывала,
заходзіш,
як госць,
у прыфрантавую
хату.
— Бульбачка ёсць?
— Ёсць.
Ёю толькі багаты...
Скінеш
мяшок
заплечны,
пакуль
закіпіць казан.
А на цябе
з-за печы
вочы
такія,
што хочуць сказаць:
не сінія,
не карыя,
а проста
чорныя —
голадам
знясіленыя.
Скурчацца,
ў чым маці
радзіла,
пад старэнькай аўчынаю,
шэптам
вызначаць праўдзіва,
хто ты
па званню-чыну.
Цікуюць
спадцішка
за чалавекам
новым.
Выцягнеш
з мяшка
цукар —
у махорцы,
пайковы.
Горкі
вырвецца
смех:
— Борка!
Зірні, вунь снег!
Як ён
у торбе
не растане!
А за акном
світанне.
Дыміць
на стале
казан
з бульбачкай дробнай,
у мундзірах.
І трэба
нешта
зараз
сказаць
разведчыкам
мне,
камандзіру.
Я рад,
што разведчыкам
ніякавата —
сумленне
кранула
салдата.
Уніз
галоўкі глядзяць
з увагай,
глядзяць хлапчукі
з-за печы.
І адчуваеш,
як прыбывае вага
«НЗ» твайго
ў мяшку заплечным.
Чорт з ім,
непарушным,
выкруцімся напэўна.
Нас не пакрыўдзіць
камдзіў,
рана, думаю гнеўна,
па нас
кадзіць,
нам яшчэ
не раз
па тылах
хадзіць.
У нас —
душа,
не душонка,
і калі
яна
падагрэта...
— Бярыце,
хлапчукі,
тушонку!
Давай,
налягай
на галеты!
Бяры,
гаспадыня,
дзіцянятам
не на малако,
а за малако.
Хлапчаняты
таго малачка
не елі:
каровак
з'елі
салдаты
пад Невелем...
Дыміць
на стале казан.
Што яшчэ можна
сказаць!
— Ну, што ж,
бывай,
даражэнькая!
Да пабачэння,
маленькія...
— Куды ж вы,
родныя!
А бульба!..
Але ж ужо мы
пераабуліся
і з лёгкім
мяшком
і сэрцам
выйшлі
ў цёмныя сенцы.
. . . . . . . . . . .
А можа,
для роб
і ватовак рослых
я і ёсць
той начны,
незгаданы
хросны!
. . . . . . . . . . .
Род праходзіць
і род прыходзіць,
а зямля
застаецца навекі.
Тая,
зямная,
вымераная ў паходзе,
што жыве
ў чалавеку.
Тая,
з імем —
жыццё,
і якая —
прах.
Тая,
што зрэдку
злая,
тая,
што добрай
часцей бывае.
Тая —
ў бярозах,
рамонках,
у мяцеліцах,
у ліўнях звонкіх,
у чарназёмах,
балотах,
у жвіры
і ў глінах,
у слотах...
Тая,
што паліта
крывёю па шыю,
якую
я зноў
грудзямі прыкрыю.
. . . . . . . . . . .

Аўтарызаваны пераклад
з рускай мовы
С. ШУШКЕВІЧА.

